РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*

Янка Купала.

Free Hlybokaye



Выдаецца са снежня 1994 года.
№27-28 (59-60), снежань, 2000 года.
Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

**Пасля выбараў і пасля жаніцьбы рэдка атрымоўваеш тое, што хацеў.**

*Народная мудрасць*

## Чытачам ад рэдакцыі газеты

Ну вось і дачакаліся: Новы 2001-ы год нецерпяліва наступае на пяты. Падганяе нас хутчэй развітвацца з недарэчнасцямі, галадоўкай, безграшоўем, занадта балбатлівымі кіраўнікамі і ўпэўнена пераступаць мяжу, за якой трэцяе тысячагоддзе.

Хацелася б, каб усе заганы нашага жыцця засталіся ў мінулым, а будучыня каб была асветлена розумам, талентам, дабрынёй, верай, надзеяй і любоўю.

Што датычыць газеты «Вольнае Глыбокае», то яна разам з супрацоўнікамі і чытачамі крочыць у дзень заўтрашні і спадзяецца, што ён будзе сапраўды светлы, шчаслівы і незалежны. Мы дзякуем усім, хто дапамагаў нам ідэямі і матэрыяламі, хто выказваў свае думкі, не баючыся, хто спрабаваў крытыкаваць і дзякаваў. «Вольнае Глыбокае» і надалей будзе супрацоўнічаць з усімі, хто імкнецца да праўды і справядлівасці і хоча жыць заможна не дзесьці за акіянам, а дома, на роднай бацькаўшчыне.

Сёння мы падводзім вынікі конкурсу, аб'яўленага яшчэ ў жніўні-верасні. Падшыўку «Вольнага Глыбокага» пакуль ніхто нам не прадставіў, а таму ў гэтай намінацыі пераможцаў няма. А вось наконт лепшага кіяскёра -- такі ёсць. Больш за ўсё экземпляраў прадала кіяскёрка **Галіна Волк**, якая працуе ля аўтастанцыі. Мы віншуем яе і з бойкім месцам, і з уменнем, і з жаданнем рэкламаваць свой тавар, і з надыходзячым Новым годам. Няхай гэты год **Галіна** сустракае здаровай, шчаслівай, у сяброўстве з «Вольным Глыбокім», з цукеркамі ад рэдакцыі і пажаданнямі, каб наступны год быў салодкім.



Галіна Волк

**Са святам Вас, нашы паважаныя чытачы, нештатныя аўтары і распаўсюджвальнікі «ВГ»!**

*Супрацоўнікі газеты.*

## А гады лятуць

Зусім нядаўна Дзісненская школа-інтэрнат, што ў Мёрскім раёне, адзначыла свой 40-гадовы юбілей.

У 1960 годзе яна пачала сваю работу, сабраўшы пад сваёй страхой дзяцей-сірот, дзяцей са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў, падлеткаў з парушэннямі мовы.

Па ініцыятыве дырэктара школы-інтэрната Т. Сачыўка усе калідоры школы і спальных карпусоў заразператварыліся ў своеасаблівую мастацкую галерэю, з'явіўся тут і свой зімовы сад. Урачыстасці з нагоды юбілею доўжыліся некалькі дзён. У інтэрнаце з канцэртам пабывалі навучэнцы сталічнай СШ№3 з музычным ухілам. Вялізны трох'ярусны торт спяклі дзеці з кулінарнага гуртка. Наваполацкая ТЭЦ падарыла школе музычны цэнтр. Былі і іншыя падарункі. Шкада, што на свята не прыехалі італьянцы, якія аказваюць значную дапамогу інтэрнату.

*У.Шык.*



*Віншуем усіх чытачоў «Вольнага Глыбокага» з Калядамі. Жадаем здароўя, шчасця і даўгалецця!*

## Што пра нас пішуць

«З задавальненнем прачытаў газеты «Вольнае Глыбокае». Прыемна было ўзгадаць знаёмыя мясціны і пачуць добрыя словы пра іх людзей.

Газета робіцца на высокім прафесійным узроўні. Звяртаюць на сябе ўвагу разнастайнасць газетных жанраў, багацце і мэтанакіраванасць матэрыялаў, літаратурная апрацоўка, умелая вёрстка. Дай Бог, каб у гэтым напрамку супрацоўнікі рэдакцыі працягвалі сваю дзейнасць».

**Савіцкі Фадзей Ігнатавіч**

## «Вольнае Глыбокае» дапамагло мне дакрануцца да радзімы

**нарадзіўся ў вёсцы Балбекі Шаркоўшчынскага раёна. Вывучыўся, «выйшаў ў людзі», перабраўся ў сталіцу. Доўгі час працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь». Зараз Фадзей Ігнатавіч «пенсіянерыць», але па-ранейшаму працуе ў родным выдавецтве. Неяк заязджаў у Балбекі, дзе жыве яго цёця і пазнаёміўся з С.М. Табола, рэгіянальным карэспандэнтам «ВГ». Соф'я Міхайлаўна падаравала яму на памяць аб сустрэчы «Вольнае Глыбокае». Фадзей Ігнатавіч быў расчулены і папрасіў даслаць яму ранейшыя экземпляры. Азнаёміўшыся з нашай газетай у падшыўцы, нядаўна даслаў С.М. Табола ліст, у якім і была гэта рэцэнзія. Прыемна чуць такі водгук на нашу працу ад чалавека, які зубы з'еў на выдавецкай справе.**

Дзякуем,
Фадзей Ігнатавіч!

## Паедзем на выхадныя ў Парыж

Кажуць, што хутка вёска Навадруцк займее сваю ранейшую назву -- Парыж. На мяжы 19 стагоддзя тут знаходзіліся землі і маёнтак князёў Друцкіх-Любецкіх -- прадстаўнікоў роду полацкага князя Усяслава Чарадзея.

Згодна паданняў, мясцовасць упадабаў Напалеон, які спыняўся ў Глыбокім. У канцы мінулага стагоддзя тут увайшла ў дзеянне адна з першых у Расійскай імперыі прыватная чыгунка Навасвянцяны -- Беразвечча. У даваенныя часы пры Польшчы мясцовыя мужыкі толькі пачалі жыць заможна, як трапілі ў лік «ворагаў народа», зведалі турмы і смерць. Кепска зараз жывецца «парыжанам». А тое, што хоць па назве яны падобны да славутага французскага горада мод, хоць крыху падымае настрой.

## ГЛЫБОЦКІ ГІСТОРЫКА-ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ



Выстава гадзіннікаў
**«ІМГНЕННЕ І ВЕЧНАСЦЬ»**
з 1 снежня па 31 студзеня
**з 9⁰⁰ да 17⁰⁰**
па адрасе: г. Глыбокае, вул. Энгельса, 24

## Чытаю газету «ад коркі да коркі»

Газеты «Вольнае Глыбокае» атрымліваюцца вельмі цікавыя. Хочацца адразу прачытаць «ад коркі да коркі». І карэспандэнты -- людзі разумныя. Мне вельмі падабаюцца матэрыялы С. Таболы з Заазерцаў. Яна і паэтка добрая! Верш «Да кастрычніцкіх угодкаў» -- на злобу дня. Адным словам, разумніца... Вельмі цікавая рубрыка «Мінулы век у памяці сучаснікаў». В. Кажану, які ўспамінае, ужо 87 год, ён жыве ў ЗША. З усяго пражытага і перажытага ён успомніў маленькую школку ў Барсуках, яго ных вучаніц. Гэта мяне ўразіла... Усяго Вам (супрацоўнікам газеты -- рэд.) найлепшага, здароўя, поспехаў у такой важнай і нялёгкай выдавецкай справе.

26.11.2000г.

**Т.М. Лагун (Барсук),**
г. Бабруйск



Курс наяўнага долара на «чорным рынку» ў Глыбокім **1200**

## Сабака падстрэліла гаспадара

У Новай Зеландыі на паляванні сабака падстрэліла гаспадара. У нядзелю 30-гадовы мужчына з трыма сабакамі высочваў дзікіх вепрукоў. Калі паляўнічы разбіраўся з адной са сваіх ахвяр, то зараджаная вінтоўка ляжала непадалёку. Адна з сабак наступіла на яго. Вінтоўка выстраліла паляўнічаму ў нагу.

# Рэгіянальны "экспрэс"

## Новы тэлефонны даведнік

**У рамках дабрачыннай акцыі «Дзеля будучыні» ў сталічным выдавецтве «Палікрафт» трохтысячным тыражом выпушчаны незвычайны тэлефонны** даведнік «Пастаўшчына».

У ім прадстаўлены кароткія даведкі аб гісторыі мясцовасці і фотаздымкі асноўных славутасцяў. Тут ёсць расклад руху цягнікоў і аўтобусаў, каардынаты народных майстроў, садаводаў, адрасы і накірункі дзейнасці прыватных фірм, сферы паслуг. Дзеля зручнасці дзелавых кантактаў даведнік дае звесткі аб мясцовых кіраўніках. Ідэя выпуску такога даведніка належыць бізнесмену са сталіцы Аляксандру Камаю, які ўдзельнічаў у выбарах, але не прайшоў у парламент. Сродкі ад продажу даведніка пойдуць на закуп патрэбнага абсталявання для дзіцячых бальніц і раддома.

*У. Шык*

### *Стары альбом*



**Гэтыя тры прыгожыя дзяўчыны -- родныя сёстры: Янка, Ядзя і Вілі, дочкі сп. Гембіцкага, які ў даваенныя часы быў начальнікам Глыбоцкай пошты. Пасля вызвалення Глыбокага ад немцаў, сёстры па загаду бальшавікоў былі сасланы ў Сібір нібыта за тое, што любіліся з акупантамі.**

**Здымак з архіва С. Кухта (Галандыя)**

## СЕНСАЦЫЙНАЕ АДКРЫЦЦЁ

Расійскія вучоныя высветлілі, што сумесь у вялікіх дозах вітамінаў B12b і C разбурае ДНК ракавых клетак, пасля чаго яны адміраюць. Каб гэтыя вітаміны пачалі разбураць гэтыя клеткі, павінны быць вялікія дозы. Вітамін B12b - самы складаны. Гэта вялікая малекула, якая ўтрымлівае атам кобальта. Яго не выпрацоўваюць ні расліны, ні жывёлы, толькі некаторыя мікраарганізмы сінтэзуюць B12, у тым ліку тыя, што жывуць у страўніку.

## Падрастае змена. Будуецца стадыён



Разумеючы, што будучыня футбольнай каманды «Азярцы» за маладымі, пры камандзе стварылі групу падрыхтоўкі. 60 хлопчыкаў трэніруюцца пад кіраўніцтвам Сяргея Ясінскага. Выбіралі з самых лепшых. На працягу месяца доўжыўся турнір дзіцячых дваровых каманд.

Тым часам балельшчыкі з нецярпеннем чакаюць калі завершыцца рэканструкцыя гарадскога стадыёна. Мяркуецца, што ўсе работы скончацца ў 2002 годзе.

*У. Шык*

## Падпал?

30 тон сена і 20 тон саломы згарэлі 24 лістапада ў вёсцы Булавішкі калгаса «Слава» Браслаўскага раёна. Мяркуецца, што гэта падпал. Вядзецца расследванне.

## Семак захацелася

З прымяненнем фізічнай сілы 24-гадовы рабочы Наваполацка адбіраў у гандлярак семак іх тавар: у адной бабкі ён адняў 10, у другой 15 кілаграмаў тавару. Вымагальнік затрыманы.

*Т. Салаўёва*

## Пацярпеў выпадковы пешаход

23 лістапада ўзрывам быў разбураны двухкватэрны жылы дом у гарадскім пасёлку Відзы Браслаўскага раёна. Выпадковы пешаход, які аказаўся побач, з пераломамі абедзвюх ног дастаўлены ў бальніцу. На шчасце, нікога з жыхароў дома ў момант узрыва не было. Зараз усе 12 чалавек адселены. Узрыў адбыўся з-за ўцечкі газу.

**Н.П.**

## І зноў цэны «выраслі»

У сярэднім на 3,2% павялічыліся цэны на нафтапрадукты. Апошняе павелічэнне было зафіксавана 31 кастрычніка. Зараз 1 літр бензіна А-76 каштуе 470 рублёў, АІ-92 -- 584, АІ-95 -- 668, дызпаліва 425 рублёў. Да прыкладу, цэны на бензін у Германіі ніжэй за нашы.

## Гаварыце з Еўропай

У многіх гарадах Беларусі ідзе ўстаноўка новых таксафонаў «Агат» і «Лес», з якіх можна будзе пазваніць у любую кропку Еўропы. Тэлефонныя карткі ўжо паступаюць у продаж у кіёскі «Белсаюздруку».

## Апытанне

На пытанне «Як вы ацэньваеце стан сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі?» адказалі 1,5 тысячы рэспандэнтаў ва ўзросце ад 16 гадоў і старэй. 39% рэспандэнтаў адзначылі, што беларускія СМІ залежныя і толькі 13% сцвярджаюць аб незалежнасці.

## Заява Беларускага Хельсінскага камітэта

БХК асудзіў умяшанне прэзідэнта Беларусі ў ход расследвання па «гучных» справах.

«Недапушчальным і незаконным з'яўляецца ўмяшанне ў справу следства, -- гаворыцца ў заяве. -- БХК патрабуе ад органаў дзяржаўнай улады прадставіць грамадскасці праўдзівую інфармацыю аб выніках расследвання фактаў знікнення Ю. Захаранкі, В. Ганчара, Д. Завадскага...».

*Г. Барбарыч,* БелаПАН

## Унукі Сталіна, Чэрчыля і Рузвельта сустрэнуцца

Уінстан Чэрчыль, Кертыс Рузвельт і Яўген Джугашвілі павінны сустрэцца ў красавіку 2001 года на міжнароднай канферэнцыі ў Нідэрландах, каб абмеркаваць вынікі сустрэчы лідэраў трох краін у Ялце ў 1945 годзе. Менавіта тады вырашаўся лёс пасляваеннай Еўропы.

## Навінкі з кніжнай паліцы




Іван Волкаў, **«Легенды, паданні азёрнага краю»**, Глыбокае -- Наваполацк, «Вольнае Глыбокае», 2000 год.

На 52 старонках выдання прадстаўлены багаты і цікавы матэрыял, сабраны аўтарам у ваколіцах Псуі, дзе знаходзяцца азёры Доўгінскай групы. Адрасуецца настаўнікам і краязнаўцам.

## Вучыцеся на здароўе

З наступнага года ўсе выпускнікі школ Беларусі могуць паступаць адначасова ў дзве ВНУ. Раней падобная практыка была парушэннем правілаў прыёму дакументаў. Зараз выдатнікі і працалюбы змогуць аднчасова набываць дзве прафесіі.

### Вандроўкі «Вольнага Глыбокага»



Фота Ул. Скрабатуна

*Радкі з канвертаў*

## Скінемся на дваіх

Колькі б нам не гаварылі, што жывём мы з кожным годам лепш, я ў гэта не веру. І каб пераканаць мяне не патрэбны складаныя эканамічныя разлікі, тэорыі ды канцэпцыі. Я пераканаўся на ўласным прыкладзе. Дзесяць год назад мы з жонкай купілі «Жыгулі». Паездзілі крыху, прадалі, бо грошы патрэбны былі на кааператыў сыну. Прыстроілі сына, зноў машыну захацелася: на «калёсах» прасцей да сотак даехаць і на вёску да бацькоў. Але як бы я не «ўкалываў», (працую на двух работах), зарабіў толькі на пару калёс. Вось і ўвесь прагрэс. Падумалі мы з братам, памеркавалі і вырашылі скінуцца, на дваіх купіць дабітага «Жыгулёнка». Жывём мы блізка, таму будзем па чарзе ездзіць на іх, запраўляць, раманатаваць. Усё ж нейкі выхад. І яшчэ адно маё назіранне. Ля пунктаў абмену валюты ў нас чэргі стаяць. Людзі хочуць набыць долары. Думаецца гэта пацверджанне нашага багатага жыцця? Гавару я з тымі багачамі. Яны месяц-другі эканомяць на сабе па-чорнаму, каб сабраць які рубель на яшчэ «чарнейшы» дзень. Людзі не вераць, што заўтра будзе лепш, чым сёння. Большасць упэўнена, што сёння дрэнна вельмі, а заўтра будзе яшчэ горш. Вось і ўсе прагнозы на будучыню. І як бы там па радыё і па беларускаму тэлебачанню не разліваліся салаўямі нашы кіраўнікі, веры ў мяне ў іх басні аніякай.

Добра, што Вы ў сваёй газеце друкуеце людскія пісьмы. Пачытаеш -- і на душы лягчэй ад таго, што ўсе мы, простыя людзі, думаем вельмі падобна.

***З павагай чытач «ВГ»***

## Песні пра Мілошавіча

Не прайшло і двух месяцаў з дня, калі прэзідэнта Югаславіі Слабадана Мілошавіча народ зняў з пасады, як выйшаў зборнік песень ненавісці, у якіх назіраецца выяўны праклён сербскага дыктатара. Некалі іх спявалі толькі на кухнях ці ў цесным сяброўскім коле. Зараз іх выконваюць прафесійныя музыканты. А рух «Супраціў», які ваяваў з рэжымам Мілошавіча мірнымі сродкамі з дапамогай плакатаў і песень, атрымаў спецыяльную прэмію MTV «Free Your Mind».

## Быць з'езду!

**21 лістапада на пасяджэнні рады «Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» прынята рашэнне аб правядзенні чарговага III з'езду беларусаў свету. Ён будзе праходзіць у Мінску ў ліпені 2001 года. Зацверджаны склад аргкамітэта і старшыня рабочай групы -- Алена Маскоўская, да якой з усімі пытаннямі можна звяртацца па тэлефонах: 289-31-94; 226-87-37**

## Армія - жабрачка

На чарговай калегіі Міністэрства абароны абмяркоўваліся матэрыяльныя праблемы арміі. Аказваецца, толькі чвэрць афіцэраў і тры чвэрці салдат беларускай арміі забяспечаны камплектам паўсядзённай амуніцыі. Каб не сарваць прызыў, міністр абароны А. Чумакоў звярнуўся да ўрада з просьбай аказаць дапамогу. На патрэбы арміі выдзелілі 1,4 млрд. рублёў. Але ёсць і іншая праблема. Хлебазаводы і мясакамбінаты не хочуць пастаўляць ваенным прадукты з-за несвоечасовасці аплаты. Законапраект аб увядзенні альтэрнатыўнай службы мог бы вырашыць шматлікія праблемы. Але ўрад не спяшаецца з гэтым і пакуль трымае армію-жабрачку.

**А. Севасцьянаў**

### *Глыбокае на старых паштоўках*

**Еўхарыстычны кангрэс у Глыбокім. Апоўначы. 1931 год.**




*«Першы раз у Глыбокім давялося быць 12-15 траўня 1935 г. Запоўнены да адказу касцёл, мільгаценне агеньчыкаў, мора сцягоў. Вялізны пляц у святочным убранні запоўнены натоўпам людзей. Гэта была аб'яднаная агульнымі думкамі грамадскасць. Убачанае ў Глыбокім не падаецца пераказу».*

***О. Гедзман,*** *Вільня, ліпень, 1935 г.*

## Трагедыя на вуліцы Чапаева

25 лістапада ў Полацку на вуліцы Чапаева адбыўся ўзрыў. 8-гадовы Леанід Шульга вырашыў разабраць незвычайную знаходку, якая аказалася боезапасам часоў другой Сусветнай вайны. У выніку ўзрыва хлопчык пазбавіўся правай ступні і некалькіх пальцаў на левай назе. Акрамя таго ён атрымаў шматлікія пераломы левай галёнкі і кісцей рук.

**А.К**

## Не лятайце самалётамі

Як высветлілі англійскія вучоныя, чалавечы арганізм пры адным пералёце на самалёце атрымлівае такую ж дозу радыяцыйнага апраменьвання, як пры адным наведванні рэнтгенкабінета. Праца лётчыкаў становіцца ў такім выпадку асабліва небяспечнай.

Праваабарончая старонка

# «СЛОВА НАРОДУ»

Глыбоцкага аддзялення БХК

**Глыбоцкае аддзяленне Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека, пачынаючы з сакавіка 2000 года, разгледзіла 26 спраў. Усім, хто звяртаўся за дапамогай, дадзена бясплатная юрыдычная кансультацыя, аказана канкрэтная дапамога ў вырашэнні праблем. У сённяшняй старонцы змешчаны толькі некаторыя факты парушэння правоў чалавека ў паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі.**

## «Поле цудаў» у Глыбоцкай бальніцы

## альбо хто, як і чым нас лечыць

### 1. Сустракаюць па пасадзе

У Глыбоцкае аддзяленне Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека звяртаецца шмат людзей. У кожнага свая «болька». Кожны хоча вылечыць яе без «хірургічнага» ўмяшання, з найменшымі стратамі для сябе. Яно і зразумела: многім, хто прыходзіць да нас, акрамя такой-сякой уласнай плоці губляць нечага -- няма здароўя, няма ні такой работы, якая б прыносіла маральнае задавальненне, ні такой, якая б хоць крыху папаўняла кішэні «зайцамі», няма ладу ў сям`і, няма сяброў. Такім людзям дапамагчы цяжка, але можна. Калі чалавек у адчаі, але з нашай падтрымкай пачынае адчуваць пад нагамі моцны грунт, у яго з`яўляецца вера, што ў жыцці ёсць дабро, што не ўсё можна набыць за грошы, што ён здолее выйсці на жыццёвы бальшак.

Нібы вузельчык у торбе развязаўся -- пасыпаліся скаргі на лячэнне, на незаўсёды ўважлівыя адносіны да хворых, крыўда, што хворы чалавек не патрэбен ні дома, ні на рабоце; ні родным, ні дзяржаве. Не бяруся сцвярджаць, што ўсе звароты апраўданыя, але «якасць» аказання дапамогі давялося адчуць на сабе -- веру, што ў Глыбоцкай бальніцы і памерці можна, не дачакаўшыся дапамогі: на якога дзяжурнага ўрача пашчасціць.

19 лістапада журналіст У.І.Скрабатун зайшоў у кабінет УЗІ да ўрача Іспенкова. У наведвальніка было тэрміновае накіраванне. Урач так ашчэрыўся на мужчыну, што той зразумеў: каб ісці ў нашу паліклініку трэба быць здароваму, як каню. У горшым выпадку «капыты адкінеш». У. Скрабатун звярнуўся да адміністрацыі і папрасіў іншага ўрача. Але да цяперашняга не можа зразумець: за што яго так груба выставіў за дзверы Іспенкоў? Цікава: ці паўтарыў бы ўрач свой «подзвіг», каб да яго прыйшоў чыноўнік з райвыканкама?

Гэты выпадак для медыкаў хадавы і радавы -- свой дрэнны настрой многія спаганяюць на іншых: доктар -- на хворых, начальнік -- на падначаленым. І калі хворы можа развярнуцца і пайсці, то падначалены будзе цярпець гадамі, бо баіцца страціць работу.

### 2. Хваробы бываюць розныя

Хвароба цела і хвароба духу -- дзве найбольш распаўсюджаныя заразы. Дрэнна калі абедзьве насядаюць на аднаго чалавека. Яшчэ горш, калі гэты чалавек -- кіраўнік. Перада мной заява Урлік Соф`і Віктараўны, чалавека, якому акрамя успамінаў да пенсіі губляць няма чаго. Жанчына просіць дапамогі і ў Глыбоцкага аддзялення БХК і просіць надрукаваць яе назіранні і высновы адносна Глыбоцкай бальніцы і парадкаў, якія там існуюць. А ёй яны вядомы як нікому другому, бо адпрацавала С.В.Урлік у бальніцы 5,5 год. Тое, аб чым піша жанчына, без суму і болю чытаць нельга, бо многае ўжо знайшло пацверджанне.

### 3. «Поле цудаў» у Глыбоцкай бальніцы вачыма Соф`і Віктараўны Урлік

Эпоха сацыялізму, эпоха бязбожжа, падману, хцівасці нарадзіла пакаленне, якое, дарваўшыся да ўлады, памылкова лічаць, што крэсла чыноўніка дае права называць «мой завод», «мой калгас», «мая бальніца», не лічыць падначаленых за людзей, абыходзіцца з імі, як з «дворнікамі» -- груба і жорстка. А ці ж дворнік не чалавек? Падобныя кіраўнікі лічаць, што калектыў існуе для іх, а не яны для калектыва.

За 35 працоўных год я сустракала розных кіраўнікоў і хачу адзначыць, што ні камунізм, ні атэізм, ні час не ўплываюць на таго, хто ад нараджэння добры чалавек, разумны, хто можа паставіць сябе на месца іншага і зразумець іншага.

Я пачынала працаваць у сельскай гаспадарцы пад кіраўніцтвам В.І. Беразоўскага. Гэта быў майстар сваёй справы, тонкі псіхолаг, клапатлівы, як бацька. Ён не кіпяціў кроў людзям і не




кіпеў сам. Яго і да сёння ўспамінаюць добрым словам. Возьмем рангам вышэй. Былы старшыня райвыканкама В.І.Сініцкі мог спакойна выслухаць кожнага -- заслужанага і старога, у кабінеце, на ферме, сустрэўшы ў дарозе. Не ганарыўся чалавек пасадай, не рабіў людзям злога, заслужыў павагу.

Але ёсць і іншыя ўспаміны. У канцы 70-ых я ведала аднаго старшыню калгаса, які не ўмеў гаварыць з людзьмі інакш, як тонам загада, да яго нельга было падысці з праблемай, бо ён указваў на адведзеныя гадзіны прыёму. Ён і мне раіў «не очень распологать к себе этих простых людей». Сам нарадзіўся ў сям`і бедняка, рос на вёсцы, дажыў да пенсіі, а людзей так і не пачаў паважаць, лічыў, што яны ніжэйшага гатунку. Другога падобнага кіраўніка я сустрэла ў Глыбоцкай бальніцы. Калі ў газеце «Вольнае Глыбокае» прачытала пра грубасць Котавай Н.Б. у рубрыцы «Як улада размаўляе з народам», не здзівілася -- яна была, як кажуць, у сваім «рэпертуары». Я б хацела дапоўніць характарыстыку гэтага чалавека.

Галоўны ўрач Котава Н.Б. ненавідзіць людзей. Гэта яна мне не раз крычала. Ды ці толькі мне? Яна размаўляе груба, можа прынізіць, пакрыўдзіць, высмеяць. Затое ўмее быць лагоднай і добра выціскае з сябе ўсмешку пры начальстве. Яна не ведае, што такое міласэрнасць, павага, добразычлівасць. Яна можа не адказаць на прывітанне, са злосці тупаць нагамі. Яна называла мяне «дурай», казала, што я знаходжуся пад «эфектам». Яна дапамагла работніцы з прыёмнага пакою трапіць у рэанімацыю. Яна выгнала мяне з працы за прагул, які сама ж мне і «падарыла» (ёсць дакументальнае пацверджанне). Выгнала, бо баялася, што даведаюцца тыя, каму не трэба пра беставарныя накладныя, калі мне прапаноўвалі прыходваць і спісваць паветра, а сапраўдны тавар ішоў некаму. Газета -- не следчы орган, таму пра ўсё я не паведамляю, для гэтага ёсць міліцыя, суд, пракуратура.

Беспрацоўе зрабіла людзей рабамі, а падобным кіраўнікам дало права быць ра-




баўладальнікамі -- таму і лексіка такая: «мая бальніца», «мае дворнікі». Котава Н.Б папірае існуючыя законы, займаецца самаўпраўствам. Я -- ганаровы донар. У 1999 годзе здавала кроў у Віцебск, атрымала даведку на вольны дзень, каб адпачыць. У Глыбокім медработнікам-донарам такіх даведак не даюць. Я ведаю жанчыну, якая гадуе чатырох дзяцей і здае кроў, каб купіць ім есці. Ёй так патрэбен быў бы дзень адпачынку. Ці не грэх эканоміць на такіх людзях? Пайсці на бальнічны медработніку можна толькі з дазволу Котавай Н.Б. Дык што медработнікі не людзі і Канстытуцыя не для іх? Маўчаць людзі. Нямы, як рыба, прафсаюз. Старшыня прафсаюза казаў не раз: «Пра ўсё беззаконне, што робіцца ў бальніцы, ведаем, але ж трэба працаваць». Нуль цана такому прафсаюзу, які не можа абараніць чалавека. А людзі, якія ўсяго баяцца, дапамагаюць Котавай Н.Б. сябе прыніжаць. Асабіста я чула, як Котава Н.Б. крычала на ўрача з Падсвілля Цяліцу Л.В. Быў і такі выпадак. Загадчыца склада Удзелаўскай бальніцы выйшла ад Котавай Н.Б. у слязах. Галоўны ўрач на яе крычала за тое, што не ўзышла расада капусты. Жанчына сказала тады: «Ад Котавай толькі павесіцца засталося». Спакойная, працавітая, веруючая А. Яркавец дні два, казалі, хадзіла ўчарнеўшы пасля той размовы з галоўным урачом. Хутка яе не стала -- жанчына павесілася.

Я пастаянны падпісчык «раёнкі», але ні разу не чытала падзяк, адрасаваных Котавай Н.Б. Затое праклянцыў чула вельмі шмат. Нават сваіх сябровак яна даводзіць да белага калення, што казаць пра падначаленых?!

Галоўнаму ўрачу засталося да пенсіі пару гадоў. Здаецца, не так многа. Але ж у гадах столькі дзён, гадзін, хвілін! Калі іх запоўніць гвалтам, крыўдай, прыніжэннем, то колькі людзей стануць няшчаснымі за гэты час?! Шкада калектыў -- працавітых людзей, у большасці сваёй сумленных, адказных.

### 4. Напішам працяг гэтага пачатку

Мы яшчэ не раз будзем вяртацца да ўзнятай праблемы, бо ведаем, што вы, паважаныя чытачы, дапоўніце гэтыя здарэнні сваімі «прыгодамі». На заканчэнне хачу прывесці словы вядомага рускага фізіёлага мінулага стагоддзя І. Тарханава, які казаў, што «хутка прыйдзе час, калі чалавеку будзе сорамна паміраць раней ста год». Бессаромныя мы, беларусы, мром, як мухі, у трыццаць, сорак, пяцьдзесят. Дзякуючы чаму? А можа каму?

І каб ужо зусім завяршыць аповяд, нагадаю словы вядомага рускага пісьменніка Л. Талстога, які напісаў іх у 1904 годзе: «Кошт жыцця адваротна прапарцыянальны квадратам адлегласці да смерці». Гэтыя словы для тых, хто забывае, што жыццё можа «матэрыялізавацца» ў праклянне.

Адносьцеся да людзей так, як бы Вы хацелі, каб людзі адносіліся да Вас.

**Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК**

## Права -- гэта старшыня калгаса

29 жніўня ў Глыбоцкае аддзяленне БХК звярнулася Марыя Сяргееўна Гедроіц, якая жыве ў Друйску, што на Мёршчыне. Яна работнік Дома культуры, але ніколі не адмаўлялася дапамагчы калгасу імя Машэрава. Паколькі яе сям`я з чатырох чалавек мае прыбытак ніжэй пражытковага мінімуму, і Марыя Сяргееўна атрымоўвае 100%-ную дапамогу на дзетак, каб выжыць, сям`я мае соткі, трымае кароў. Без папярэджання калгас налічыў Гедроіц М.С. каля 3 тысяч рублёў платы за карыстанне пашай. Для параўнання: за карыстанне гектарам зямлі ў год жанчына плоціць у сельсавет 2180 рублёў, а месяц карыстання пашай цягне амаль на 3 тысячы. Марыя Сяргееўна плаціць адмовілася, і калгас падаў на яе ў суд. Жанчына звяртае ўвагу на тое, якім чынам калгас ўтрымлівае грошы за пашу: у час выплаты грошай за малако, ні ў кога не пытаючыся, ні з кім не параіўшыся. Што датычыць Гедроіц М.С, то толькі на трэцім пасяджэнні суда, якое адбылося 12 верасня ў Браславе (суддзя Скарына М.А.) было прынята рашэнне на карысць калгаса імя Машэрава.

Праваабаронца, які спрабаваў пагутарыць са старшынёй калгаса Кіцук Аляксандрам Міхайлавічам, зрабіць гэтага не змог -- старшыня не пажадаў лічыцца з прадстаўніком грамадскай арганізацыі, тым паказаўшы свае адносіны да народа. Магчыма, ён лічыць, што робіць усё правільна, але абвастраць адносіны з людзьмі, якія без аплаты, без выхадных, з вялікімі намаганнямі цягнуць калгасны воз і дапамагаюць тым жа старшыням страчыць гладкія справаздачы ў раён, не варта.

*С. Табола*

*Ну і ну!*

## Хто на чым «грэе» рукі

16 верасня ў Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК звярнулася жыхарка вёскі Шкунцікі Васілевіч М.А. і паведаміла, што 25 жніўня яна прадала 4 аўчыны нарыхтоўшчыку Шаркоўшчынскага райзага Моркат В.К. за 775 рублёў. 15 верасня да Васілевіч М.А прыехаў прадстаўнік недзяржаўнага малога прадпрыемства «Арыён» Лазовік М.М. з прапановай прадаць аўчыны яму, на што жанчына адказала, што аўчыны здала. Лазовік М.М у размове сказаў, што перакупіў тыя аўчыны ў нарыхтоўшчыка, але не за 775 рублёў, а ажно за 6,5 тысяч. Падманутая жанчына звярнулася ў БХК і папрасіла даведацца, які гэта закон дазваляе дзяржаве метадам ашукання людзей «грэць» рукі і кішэні.

Пры разглядзе справы праваабаронцам устаноўлена, што дзяржаўная нарыхтоўчая кантора купляе ў насельніцтва аўчыны па цане 109 рублёў і менш (у залежнасці ад гатунку, які нарыхтоўшчык вызначае на вока) за 10 дм. З гэтай сумы вылічваецца падатак. Пасля гэтыя ж аўчыны прадстаўнік дзяржавы перапрадае па цане 250 рублёў за 10дм недзяржаўнаму прадпрыемству «Арыён». У выніку ці нарыхтоўчая кантора, ці сам нарыхтоўшчык мае добры «навар». Усё гэта робіцца на падставе заключанага паміж нарыхтоўчай канторай і «Арыёнам» дамовы. Быццам бы ўсё законна, калі не лічыць даверлівых падманутых вяскоўцаў, з якіх дзяржава, як той крывасмок, цягне ўсе сокі.

*С. Табола*

# У светлае заўтра са светлай надзеяй

**Кожны раз, калі сустракаемся, былыя сябры-аднакласнікі, разам і пачынаем гартаць старонкі школьнага жыцця, вяртаем да жыцця адначасова і ўспамін пра мінулыя савецкія часы. Усе мы, каму сёння без трох сорак год, заканчвалі школу пры сацыялізме, ваступалі ў час шляху грамадства ў камунізм, жаніліся і выходзілі замуж пры Брэжневе ды пры Андропаве. Усіх нас, выпускнікоў 1980 года, аб`ядноўвае не толькі 10 «В», але і час застойна-застольны, светла-чорны, шчасліва-няшчасны: кожнаму і тады было сваё, і зараз сваё .**

Разнясло нас па свету, раскідала: некага муж звёз у Сірыю, нехта пасля вучобы атабарыўся ў сталіцы, нехта «завіс» у раёнах Беларусі, некага размеркаванне закінула ў блізкае замежжа, якое ў 80-ых таксама было савецкім. Пры сустрэчах з тымі, каму дваццаць гадоў назад, лічылася, не пашчасціла, бо пасля інстытута трапілі далёка ад дома -- у Латвію -- прыходзім да думкі, што менавіта ім і пашанцавала, бо жывуць яны ўжо ў звычайнай цывілізаванай краіне, жывуць, адпаведна здольнасцям і працавітасці, заможна і шчасліва, жывуць у светлым, але без прыпіскі «савецкім і камуністычным» сёння і з надзеяй глядзяць у бясхмарнае заўтра. Вядома, ёсць праблемы: «іх няма толькі ў пакойнікаў»,-- жартуе адзін мой знаёмы, але галоўнае, кожны іх дзень можна назваць жыццём, а не існаваннем, у іх ёсць перспектыва, што заўтра будзе лепш, чым сёння.

Святлана скончыла СШ №3 г. Глыбокае ў 1980 годзе. Паступіла ў Мінскі тэхналагічны інстытут, скончыла яго і па размеркаванню трапіла ў Рыгу на буйнейшае тэкстыльнае прадпрыемства. Лічыла, што ёй не пашанцавала: у гэтым старым горадзе з вузкімі вулачкамі ёй, што прызвычаілася да шырокіх мінскіх праспектаў і сучаснай архітэктуры, здавалася, не было чым дыхнуць. Прыехала яна ў Рыгу ў сакавіку -- надвор`е было шэра-мутнае, наваколле, што суседнічала з морам, патанала ў вільготна-імжыстым сутонні, пад нагамі гразь, будынкі мокрыя, аблезлыя, абшарпаныя -- усё ўздзейнічала, давіла сваёй цёмнай грувасткай веліччу.

Надвор`е надвор`ем-- яно хутка мянялася, а вось недагледжанасць, беднасць, абшарпанасць была вынікам «разумнага» савецкага праўлення.

Праз месяц Святлана адчула, што гэты мурзаты цесны горад стаў ёй блізкім і зразумелым. А яшчэ пазней дзяўчына ацаніла і брукаваныя вулачкі і старадаўнія храмы і замкі. Гэта архітэктурнае багацце -- спадчына латышоў -- заключала ў сабе і майстэрства продкаў, і іх адносіны да радзімы, і іх пачуццё прыгожага. Так здарылася, што сваё каханне Святлане таксама падарыла Рыга. Нечакана, як і палюбілася. Выйшаўшы на прыпынку, яна ўбачыла перад сабой хлопца, які, адкінуўшы фамільярнасць, звярнуўся да яе на «ты» і выклікаўся быць праважатым. Як пайшоў за ёй з таго прыпынку, так і ходзіць побач ужо васемнаццаць год. Латыш і беларуска стварылі сям`ю, маюць шаснаццацігадовага сына. Да трыццаці год Святлана не працавала: як пайшла ў водпуск па догляду за дзіцём, так і даглядала яго год восем. У мужа была кватэра, ён працаваў на тым жа камбінаце, куды прыехала па размеркаванню Святлана,-- на сям`ю хапала. Свежы вецер, які падзьмуў у пачатку 90-ых зусім не з боку мора, прынёс перамены і зрабіў Латвію свабоднай ад расійскага ярма. Працавітыя, імпэтныя, дзелавыя людзі ў шапку не спалі -- былі зняты шматлікія прававыя абмежаванні, і ў Латвіі пачаў развівацца прыватны бізнес.

Ніхто не лічыў прыватнікаў жулікамі, ніхто не душыў іх празмернымі падаткамі, як зараз у нас. Праз два-тры гады, дзе што дзелася: паліцы магазінаў сталі ламацца ад прадуктаў і тавараў, зніклі чэргі і талоны, на кожным кроку ўзніклі прыватныя прадпрыемствы: у каго -- міні, у каго -- максі. Цікавая адметнасць: прадукцыя сваіх фермераў у Латвіі каштуе даражэй, чым прывазны замежны тавар. Здавалася б, дробязь, але ў ёй мудрая палітыка дзяржавы -- падтрымліваць працу сваіх працоўных, навучыць паважаць сваё, рэкламаваць сваё. Адным словам, дзяржава з першых самастойных крокаў пачала выхоўваць у сваіх грамадзян гонар да сваёй нацыі, культуры, жыцця.

У Святланы зараз свая фірма. Яна галоўны дырэктар, каардынатар, арганізатар. Мае прадаўцоў, вадзіцеляў, машыны, магазіны -- гандлюе садавінай-гароднінай не толькі ў Рызе, але і далёка за яе межамі. У сезон мае па 3-4 тысячы долараў. Здольна аплаціць і кватэру, і вучобу сына, і з`ездзіць на адпачынак, да прыкладу, у Іспанію. Як у нас кажуць -- крутая. Працуе напружана, рызыкуе, бо могуць падвесці пастаўшчыкі, тавар можа сапсавацца, але ёсць перспектыва, ёсць і матэрыяльнае, і маральнае задавальненне. Праўду кажуць, што хто не рызыкуе, той не п`е шампанскае. Яна яго п`е і заесці мае чым.

Працу сваю пачынала з нуля і за тры гады змагла цвёрда стаць на ногі. Для параўнання, па разліках спецыялістаў, каб адкрыць сваю сур`ёзную справу ў Беларусі, згодна ўсіх заканадаўчых актаў, трэба мець не менш 20 тысяч долараў. Сумленнай працай на дзяржаву беларус не заробіць такія грошы за ўсё жыццё.

Не растуць на вербах грушы і ў Латвіі. Там вельмі дарагая кватрплата (Святлана плоціць па 100 долараў у зімовы перыяд). Не скажам, што танныя прадукты і вельмі высокія заробкі. У Рызе прадаецца шмат двух-трохпакаёвых кватэр, людзі імкнуцца ў аднапакаёўкі, бо плаціць менш. Трэба плаціць за прыём урача, аперацыі ў бальніцах платныя, платным робіцца навучанне і не толькі ў ВНУ краіны. Вядома, цяжка. Але там ёсць магчымасць зарабіць, калі маеш жаданне.

Плата за прыём урача не такая ўжо і вялікая--50 санцімаў. За кожны дзень лячэння ў бальніцы 2,5 долары. Да таго ж, латышы маюць страхоўку і плацяць намнога менш, вышэй прыведзеныя цэны датычаць не жыхароў рэспублікі. У Беларусі медыцына лічыцца бясплатнай, але калі захварэеш, кашалёк выяўна «пахудзее». Жыхароў замежжа ў нас лечаць таксама за вар`яцкія грошы.

Зусім іншая сістэма і сацыяльнай абароны сямей. Так, у Латвіі дастаткова прынесці ў аддзел адукацыі даведку аб тым, што дзеці вучацца і на іх будуць выплочваць дапамогу -- дзесяць долараў на чалавека да 16-гадовага ўзросту. Нікога не цікавіць ёсць у дзяцей бацька ці не, працуюць бацькі ці не, дацягвае ці не рацягвае сям`я пражытковы мінімум -- плацяць, бо такая іхняя сацыяльная палітыка. Паглядзіце, што ў нас? Рубель-другі перацягнуў пражытковы мінімум і дапамогі няма. Каб атрымаць дапамогу на дзяцей, бацькі павінны працаваць. Але калі яны не працуюць, значыць, сям`і, усім зразумела, удвая патрэбна дапамога дзяржавы і дапамога на дзяцей. Нават сем`і беспрацоўных гадуюць грамадзян сваёй краіны, будучыню нацыі -- чаму на іх наша дзяржава плюе, ігнаруе?

А вазьміце нашых фермераў, сялян. Працуюць, як рабы, а за здадзеную прадукцыю атрымоўваюць грашы. Свае яблыкі гніюць -- вязуць утрая даражэйшыя з Украіны, Польшчы. Сваё мяса прымаюць па смешных цэнах, а расійскую прадукцыю па астранамічных закупляюць. Наша палітыка з дакладнасцю да наадварот ад латышскай. Усё сваё -- горшае, таннае, абясцэненае. Адносіны дзяржавы да людзей абясцэньваюць і адносіны людзей да дзяржавы: як яна да іх -- так і яны да яе. І калі на кожным пасяджэнні ў вярхах фігурыруе тэзіс: «Павярнуцца тварам да сяла, ці павярнуцца тварам да інтэлігенцыі», то гэта сведчыць аб тым, што дзяржава сама прызнае свае абыякавыя адносіны да людзей. Дакуль ужо яна будзе стаяць да нас, яе грамадзян, задам?

-- Пераязджаючы мяжу,-- кажа Святлана,-- мяне здзівілі вашы парадкі і тэхнічнае аснашчэнне мытні і мытнікаў. У нас на мяжы прыгожа, хутка, ветліва, усё з дапамогай камп`ютэраў, а ў вас усё абшарпана, драўляныя чорныя падмосткі, недавер мытнікаў, пільнасць і нейкае падазрэнне і амаль усё робіцца ўручную. Свой кантроль мы праходзім за 20-30 хвілін, ваш за дзве-дзве з паловай гадзіны. Адчуваецца, што рэжым у вас яшчэ той, з прыпіскай «савецкі», якога, дзякаваць Богу, у нас няма.

Адышоўшы ад глабальных праблем, мы перайшлі на сем`і. Як,што, дзе? Калі хапае грошай ці ёсць у сям`і сваркі і за што?

-- Я,-- кажу,-- калі ёсць сякі-такі рубель ля рук -- ціха і спакойна, калі кашалёк пусты -- пачынаюцца сваркі, абвінавачванні, высвятленні хто ж у хаце гаспадар і хто павінен гадаваць сям`ю.

-- І ў нас здараюцца стычкі. Напрыклад, за тое, што муж прыходзіць выпіўшы. І хоць ён заўсёды прыходзіць з кветкамі, я з ім не размаўляю,-- расказвае Святлана.

Дыягназ, падобна, адзін і той жа: «немцы» ў хаце. Гэты метад дапамагае астыць, не наскокваць на мужа з налёту і даць магчымасць і сабе, і яму добра падумаць і аднаму прызнаць віну, а другому -- дараваць яе.

-- Значыць,і вы сварыцеся калі муж п`яны?-- перапытаў аднакласнік. І дадаў:

-- А ў нас сваркі і за тое, што п`яны, і за тое, што грошы дамоў не прыносіць.

Гэта таксама прыкмета нашага жыцця: у людзей сварка па адной прычыне, а ў нас цэлыя букеты прычын.

Канец лета. Святлана з сынам збіраецца дадому. Так, Рыга стала для яе месцам, дзе жыве каханне, жывуць родныя, блізкія людзі, горадам, якому патрэбна яна, яе магчымасці і праца, горадам, які дазваляе жыць у ім па-чалавечы.

Шчасця табе, Святлана, а нам землякам-бульбашам пажадання найхутчэй узбіцца на іншы шлях, які прывядзе нас не ў светлую камуністычную будучыню, а ў звычайнае чалавечае заўтра, з маральным і матэрыяльным дастаткам.

**Г. Сутула,**
г. Глыбокае







Вядомы адвакат Гары Паганяйла выступае перад удзельнікамі семінара.






25 лістапада ў Глыбокім пад эгідай міжнароднай місіі АБСЕ, пры падтрымцы Беларускага Хельсінскага Камітэта прайшоў праваабарончы семінар «Грамадскі абаронца ў беларускай судавытворчасці». На здымках -- рабочыя моманты семінара.

## СТУДЗЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аў | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Нд | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ЛЮТЫ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аў | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## САКАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аў | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## КРАСАВІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аў | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Нд | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## ТРАВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аў | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Нд | 6 | 13 | 20 | 27 | |




## ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аў | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Нд | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## ЛІПЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аў | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Нд | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аў | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Нд | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аў | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Нд | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аў | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Нд | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ЛІСТАПАД

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аў | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## СНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аў | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Нд | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |


## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ | ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|---|---|---|
| 18:00 - 19:30 | 7190 | 41 | 22:00- 23:30 | 6010 | 49 |
| | 9615 | 31 | | 6170 | 49 |
| | 15460 | 19 | | 9845 | 31 |
| | | | 06:00-07:00 | 5995 | 49 |
| | | | | 7295 | 41 |
| | | | | 9750 | 31 |


RADIO FREE EUROPE
RADIO LIBERTY

Чэхія Vinohradska 1, Praha 11000 CZ
Беларусь п/с 111, Мінск, 220005
Інтэрнэт WWW. SVABODA.ORG

Сярэднія хвалі -- 576 і 612 kHz

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!

## РАДЫЁ РАЦЫЯ

АБ`ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ
НОВАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ

Навіны RR -- тройчы на гадзіну, аператыўна і аб`ектыўна пра падзеі ў краіне і ў свеце: палітыка, эканоміка, культура, гісторыя Беларусі -- усё тое, што фармуе БЕЛАРУСКІ кантэкст III тысячагоддзя.

Экспертыза беларускага жыцця -- на хвалі RR у ацэнках беларускіх і міжнародных аналітыкаў.

Спрэчкі інтэлектуалаў пра шляхі Беларусі ў Еўропу, найноўшая гісторыя вачыма знаных пісьменнікаў ды навукоўцаў, нацыянальныя традыцыі ў музыцы, мастацтве, літаратуры -- гэта Незалежны эфір РАДЫЁ РАЦЫЯ

НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6165 кГц (49 м) 21:00 -- 23:00
6035 кГц (49 м) 07:00 -- 09:00

E-mail:radio.racija@poczta.wp.pl
www.racyja.pl


# АСНОЎНЫЯ РЭЛІГІЙНЫЯ СВЯТЫ Ў 2001 ГОДЗЕ

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ

| | |
|---|---|
| 7 студзеня | Нараджэнне Хрыстова (Каляды) |
| 14 студзеня | Абразанне Гасподне |
| 19 студзеня | Хрышчэнне Гасподне (Богаз`яўленне) |
| 15 лютага | Грамніцы |
| 7 красавіка | Благавешчанне Найсвяцейшай Багародзіцы |
| 8 красавіка | Уваход Гасподні ў Іерусалім |
| 15 красавіка | Вялікдзень (Пасха) |
| 9 траўня | Радаўніца |
| 24 траўня | Узнясенне Гасподне |
| 3 чэрвеня | Пяцідзесятніца Дзень Святой Тройцы |
| 7 ліпеня | Нараджэнне Св. Іаана Хрысціцеля |
| 12 ліпеня | Святых апосталаў Пятра й Паўла |
| 19 жніўня | Прэабражэнне Гасподне |
| 28 жніўня | Прачыстая |
| 21 верасня | Нараджэнне Найсвяцейнай Багародзіцы |
| 27 верасня | Узвіжанне Крыжа Гасподня |
| 14 кастрычніка | Пакроў Найсвяцейшай Багародзіцы |
| 4 снежня | Увядзенне ў Храм Найсвяцейшай Багародзіцы |

## МУСУЛЬМАНСКІЯ

| | |
|---|---|
| 8 - 9 студзеня, 28 - 29 снежня | Ураза -- байрам |
| 5 сакавіка | Курбан -- байрам |
| 15 чэрвеня | Маўлід |
| 26 кастрычніка | Мірадж |
| 24 снежня | Лейлят аль -- кадр |

Магчымы адхіленні ў некалькі дзён ад дат пачатку мусульманскіх свят у залежнасці ад фаз Месяца

## ІУДЗЕЙСКІЯ

| | |
|---|---|
| 22 студзеня | Ту Бішват |
| 21 сакавіка | Пурым |
| 20 красавіка | Песах |
| 9 чэрвеня | Шавуот |
| 30 верасня | Рош Ашана |
| 9 кастрычніка | Ём Кіпур |
| 14 кастрычніка | Суккот. |
| 22 кастрычніка | Сімхат Тора |
| 22 снежня | Ханука |

1.01. -- Новы год; 8.03.-- Міжнародны жаночы дзень; 25.03.-- Дзень незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі; 26.04.-- Дзень смутку (Чарнобыльская катастрофа 1986 г.); 1.05.-- дзень працы; 9.05.-- Дзень Перамогі; 23.06.-- Купалле*; 3.07.-- Дзень вызвалення Беларусі; 7.07.- Купалле*; 15.07.-- Дзень Грунвальдскай бітвы (1410 г.) 27.07. Абвяшчэнне Незалежнасці Рэспублікі Беларусь; 1.09.-- Дзень беларускай пісьменнасці і друку; 8.09.-- Дзень беларускай вайсковай славы (Бітва пад Оршай -- 1514 г.); 27.11.-- Дзень Герояў (Слуцкі збройны чын -- 1920 г.)

## КАТАЛІЦКІЯ

| | |
|---|---|
| 1 студзеня | Багародзіцы |
| 6 студзеня | Богаз`яўленне |
| 7 студзеня | Хрышчэнне Панскае |
| 2 лютага | Грамніцы |
| 28 лютага | Попельная серада |
| 19 сакавіка | Святы праведнік Язэп |
| 25 сакавіка | Звеставанне |
| 8 красавіка | Вербная нядзеля |
| 15 красавіка | Вялікдзень Хрыстоў |
| 22 красавіка | Уваскрашэнне Божай міласэрнасці |
| 24 траўня | Узнясенне Панскае |
| 3 чэрвеня | Пяцідзесятніца |
| 10 чэрвеня | Святая Тройца |
| 14 чэрвеня | Найсвяцейшае цела і кроў Хрыста |
| 24 чэрвеня | Нарадж. Хрысціцеля Панскага Яна |
| 29 чэрвеня | Святых Пятра й Паўла |
| 2 ліпеня | Будслаўскай Маці Божай |
| 15 жніўня | Успенне Найсвяцейшай Багародзіцы |
| 8 верасня | Нарадж. Найсвяцейшай Багародзіцы |
| 1 лістапада | Усе Святыя |
| 2 лістапада | Дзяды |
| 16 лістапада | Маці Божай Вастрабрамскай |
| 8 снежня | Беззаганны пачатак Найсв. Марыі Панны |
| 25 снежня | Нараджэнне Хрыстова (Каляды) |

*Лепшае, бо сваё*

# Купляйце беларускія календары

Хутка надыдзе Новы 2001-ы год. Напярэдадні яго мы набываем вельмі неабходную ў хаце рэч -- каляндар. Сёлета іх прапаноўваюць у вялікім асартыменце. Яркія, маляўнічыя, на розныя тэмы і для розных катэгорый чытачоў. «Для жанчын» і «агароднікаў», «лекавыя» і «астралагічныя» -- словам, розныя. Але я раю вам, дарагія чытачы, звярнуць увагу на каляндар «Родны край». Пагартаўшы яго, зразумела: беларусы атрымалі цудоўны падарунак да свята -- беларускамоўны каляндар -- змест якога прысвечаны памятным датам нашай краіны. Колькі новых беларускіх імён знойдзеце вы ў календары! Пра многія мы раней і не чулі. Колькі падзей з гісторыі Беларусі нагадвае каляндар! Прычым, анатацыі прадстаўлены так цікава, што хочацца даведацца пра падзею альбо дзеяча больш падрабязна, вывучыць больш грунтоўна.

У календары абазначаны дні імянін, свецкія і царкоўныя святы (праваслаўнай і каталіцкай канфесій), маюцца традыцыйныя час усходу і заходу сонца, месяцовыя фазы. Маюцца таксама тэматычныя старонкі: гумарыстычныя, паэтычныя, для дзяцей. Адзначаны найбольш значныя даты і юбілеі сусветных дзеячаў навукі і культуры рэспублікі.

Аўтарскі калектыў каляндара папрацаваў на славу. І хоць выглядае каляндар не так шыкоўна, як яго «астралагічныя» калегі, якія і маляўніча аформлены, і з яркімі вокладкамі, наш каляндар просценькі, але багаты на змест, цікавы, пазнавальны і недарагі. Ён каштуе ўсяго 200 рублёў (астатнія 600-800). Раю вам, паважаныя чытачы, набыць беларускі каляндар «Родны край», не пашкадуеце.

**Сафія Табола**

*Роздум*

# «Як добра, што ёсць першыя»

Расце лес... Зялёнай сцяной устае ён на шляху. Каля лесу не адчуваеш ветру -- ціха, спакойна навокал. Прыглядаюся да дрэў і заўважаю, што сярод іх ёсць больш высокія, больш магутныя, мабыць, імкнуцца вышэй да сонца таму і стаяць зараз волатамі, уздымаюцца над усім лесам. Ім першым дастаюцца буры і вятры. Іх гойдае -- стараецца зламаць непагадзь. А яны не здаюцца. Яны першыя прымаюць на сябе ўдары стыхіі і вытрымліваюць, і ўсё вышэй і вышэй уздымаюцца ў прастор. Іх няшмат, але, здаецца, за імі цягнецца ўвысь, расце ўвесь лес.

А ў лесе жывуць птушкі. Розныя... Адны не лётаюць вышэй дрэў, жывуць сабе ў зацішку, шчабечуць у сонечны дзень, гарэзліва пераскокваючы з галінкі на галінку. А ёсць птушкі, што імкнуцца ў неба, вышэй, вышэй, да сонца, за аблокі... Няхай бура, вецер, дождж, а яны, непакорныя, не баяцца стыхіі.

А на зямлі жывуць людзі. Розныя. Адны проста жывуць, таму што так наканавана, не задаюць пытанняў, не шукаюць адказаў, мірацца з усім, што навокал. Нават жыццёвыя перашкоды прымаюць як заканамерныя факты, якім не лічаць за патрэбу нават пярэчыць, не тое, што змагацца. Для многіх выратаваннем стала гарэлка. П'яная ілюзія, што ўсё добра, не трэба думаць, аналізаваць, рабіць высновы, засціле і вочы і розум. Але сярод гэтых людзей знаходзяцца адзіночкі, што ўздымаюць галаву, не баяцца жыццёвых нягод, вядуць за сабой іншых, першымі прымаюць на сябе ўдары, не згінаюцца і не адступаюць перад няпраўдай, жорсткасцю, цынізмам, нахабствам. Ім цяжэй за ўсё, бо яны -- першыя. Але як добра, што ёсць на зямлі высокія дрэвы, імклівыя птушкі; як добра, што ёсць першыя, тыя, хто паказвае дарогу іншым.

*С. Табола*

<u>Гэта цікава</u>

# Дзе, як і калі сустракаюць Новы год

**У эскімосаў прыход Новага года залежыць ад надвор'я. Гэтае свята яны адзначаюць тады, калі выпадзе першы снег.**

**Эвенкі адзначаюць Новы год два разы на год: у кастрычніку, калі пачынаецца сезон палявання, а другі раз, калі гэты сезон завяршаецца.**

**У Шатландыі Новы год адзначаецца 1 студзеня. Лічыцца, што, хто першы прыйдзе ў дом на свята, той прынясе шчасце. Самы непажаданы госць -- рыжавалосы. Уладальнікі валос такога колеру добра ведаюць гэта і актыўна карыстаюцца парыкамі.**

**Англічане з нецярпеннем чакаюць высакоснага года, які, згодна звычаю, дае дзяўчатам права самім прапаноўваць руку і сэрца каханаму.**

**У Балгарыі пасля 12-га ўдару гадзінніка ва ўсіх хатах выключаюць святло і цалуюцца хто з кім хоча.**

**У немцаў і аўстрыйцаў Новы год не будзе лічыцца святам без трубачыста і... свінні. Маска трубачыста самая папулярная ў гэтых народаў, а сапраўдны трубачыст самы жаданы госць за сталом. Сустрэча са свіннёй у немцаў і аўстрыйцаў адбываецца за сталом.**

**На востраве Сардзінія (Міжземнае мора) у гонар Новага года на 24 гадзіны ўстанаўліваецца матрыярхат. Ад улады жанчын мужчыны могуць схавацца толькі ў барах, бо там жаночая ўлада не мае сілы.**

**У Фінляндыі ў навагоднюю ноч варожаць дзяўчаты. Напрыклад, кідаюць праз плячо туфель і калі той зваліцца «носам» да дзвярэй -- быць у гэтым годзе вяселлю.**

**У Калумбіі напярэдадні свята на вуліцы ладзяць вялікую ляльку -- стары год. Усе жартуюць і весяляцца, як у нас на 1 красавіка.**

**Паколькі ў Беларусі, згодна апошняга перапісу насельніцтва, пражываюць прадстаўнікі 134 нацыянальнасцей, то і Новы год, напэўна, кожная сям'я сустракае па сваіх традыцыях. Для карэнных жа беларусаў характэрна, каб на стале была чарка і шкварка. І, вядома ж, ёлка, пад якой ляжаць падарункі.**

**Новы год з ёлкамі пачалі сустракаць 1 студзеня па загаду Пятра І. У іншых краінах ёлка з'явілася на свяце ў пачатку XIX стагоддзя. Да гэтага на Новы год упрыгожвалі вішню, якую спецыяльна вырошчвалі ў драўлянай кадцы.**

***Матэрыял сабрала Сафія Табола***

## Хочаце -- верце, хочаце -- не

Да цяперашняга ў многіх мусульманскіх краінах пасля першай шлюбнай ночы маці жаніха ці сам жаніх вывешваюць напаказ акрываўленую прасціну, як доказ нявінасці нявесты.

У жыхароў Балеарскіх астравоў доўгі час была традыцыя, згодна якой у час вяселля ўсе родныя і сябры карысталіся ўвагай нявесты, згодна сацыяльнага статуса. Будучаму мужу нявеста дасталавалася пасля ўсіх.

У Перу маці пазбаўляе нявіннасці сваю дачку ў грамадскім месцы. Такія выпадкі былі і на Мадагаскары.

*Між іншым*

⊠...Наўрад ці будзе там парадак строгі,
Дзе аб законы выціраюць ногі.

⊠Да ўлады царскай той заве,
Хто без цара у галаве.

⊠ З заводам не адным час абышоўся крута --
Давёў ад мільярдэра да банкрута.

⊠Што ў нас людзей свядомых небагата -- для бюракратаў гэта проста свята.

⊠Улады рэйтынг свой не паднялі
На цэнніках дабавіўшы нулі.

⊠ Бяда, калі ў дзяржаўнай дзейнасці
Пануе прынцып самадзейнасці.

⊠Нямала ёсць у нас газет,
Што так і просяцца ў клазет.

⊠ Калі стрымаць не можаш цэны,
Кідай партфель,
Ідзі ў спартсмены.

⊠Для стымуляцыі кірумага рынка
Ёсць лекі добрыя -- падаткі і дубінка.

# У пошуках сваёй «Атлантыды»



На здымку: экспедыцыя «Вольнага Глыбокага» завітала ў в. Лучайку. Рыгор Леанідавіч Шарыпкін (справа) і Зміцер Бернардавіч Курцэвіч аглядаюць экспазіцыю школьнага гісторыка-краязнаўчага музея, якая прысвечана старажытнай гісторыі Залескага сельсавета і яго бліжэйшых ваколіц.

Грамадскае жыццё трымаецца на энтузіястах. За кожнай ідэяй заўсёды стаіць канкрэтны жывы чалавек. Інакш не бывае. Чым была б знакаміта вёска Лучайка? Ну, хіба сваімі працавітымі людзьмі. Няма тут ні замкаў, ні палацаў, ні старадаўніх храмаў.

Гэты прабел ліквідаваў настаўнік рускай мовы і літаратуры, вядомы краязнаўца **Рыгор Леанідавіч Шарыпкін** -- наш пастаянны аўтар і грамадскі распаўсюджвальнік «Вольнага Глыбокага». У мясцовай базавай школе ён вядзе гурток **«Наша спадчына»**. З дапамогай дзяцей у невялічкім пакойчыку ён стварыў гісторыка-краязнаўчы музей, які па колькасці экспанатаў не ўступае Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею.

На абшарах Залесчыны Рыгор Ленідавіч знайшоў сваю «атлантыду», якая адлюстравана ў сабраных ім паданнях, лёсах тутэйшых жыхароў, гісторыі Залескага маёнтка, матэрыялах археалагічных раскопак, экспанатах музея, у газетных публікацыях «Вольнага Глыбокага» і «Весніка Глыбоччыны».

**Тэкст і фота Ул. Скрабатуна**




На здымку: стэнды музея з экспазіцыяй, якая прысвечана акупацыі Залескага сельсавета ў часы Другой сусветнай вайны.

# Не ў брывіну, а ў вока

**1.** У школе жыцця мы кожны дзень вымушаны здаваць экзамены на выжыванне.

**2.** Бяда ў тым, што аматары займецъ народнае дабро сталі прафесіяналамі.

**3.** У адных мову адбірае інсульт, у другіх -- выбары і рэферэндумы.

**4.** Дэпутатскі корпус... А можа хапіла б і роты?

**5.** Нішто так не паляпшае настрой, як зарплата, выдадзеная на дзень раней.

**6.** Не бяда, калі ў вашага суседа сістэматычна не хапае грошай. Бяда, калі іх пастаянна не хапае ў вас.

**7.** Самая смачная гарэлка -- тая, што наліваюць у гасцях.

**8.** На прэзідэнта спадзявайся, але і свой гонар май.

**9.** Меў адмысловы нюх: за трыдзевяць земель чуў... пах улады.

**10.** Авечка доўга не разумела сэнсу жыцця пакуль не сустрэла ваўка.

**11.** Вельмі хочацца жыць сумленна, але зарплата і пенсія не дазваляюць.

**12.** І эшалоны ўлады могуць быць перапоўненыя.

**13.** Праваўдыры праводзяць на нас эксперыменты, а мы ім узводзім манументы.

**14.** Маркі -- гэта грошы, пра якія можна толькі марыць.

## Прыміце да ведама калі святкаваць

**Урад краіны прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 2001 годзе.**

■ **Рабочы дзень з аўторка 2 студзеня пераносіцца на суботу 20 студзеня. Навагоднія святы будзем адзначаць ажно 4 дні: 30 і 31 снежня 2000 г. і 1, 2 студзеня 2001 года.**

■ **Рабочы дзень з панядзелка 23 красавіка пераносіцца на суботу 21 красавіка.**

■ **Рабочы дзень з панядзелка 30 красавіка пераносіцца на суботу 28 красавіка.**

■ **Рабочы дзень з панядзелка 2 ліпеня пераносіцца на суботу 7 ліпеня.**

■ **Рабочы дзень з панядзелка 24 снежня пераносіцца на суботу 22 снежня.**

■ **Рабочы дзень 31 снежня пераносіцца на 29 снежня.**

### Школьнікі злавілі злодзея

Вечарам 12 снежня гомельскія падлеткі сталі сведкамі рабаўніцтва. Убачыўшы як малады чалавек выхапіў сумачку з рук жанчыны і кінуўся ўцякаць, яны змаглі затрымаць яго і даставіць у міліцыю. Пяцёра школьнікаў атрымалі прэміі па 50 тысяч рублёў.

**Глыбоцкаму аддзяленню Беларускага Хельсінскага Камітэта па правах чалавека для працы ў грамадскай прыёмнай патрэбен юрыст з вышэйшай (сярэдне-спецыяльнай) адукацыяй. Звяртацца па тэлефоне 23754 у Глыбокім.**


Тут магла быць і твая рэклама!

**Стаматалагічныя паслугі**

*Трыцкевіч Мікалай Пятровіч*



Ліцэнзія №529 ад 15.12.97 г.

*Лячыце зубы з задавальненнем!*

**г. Глыбокае, вул. Касманаўтаў, 2; тэл.: 2 33 91**




### Прагноз

Будуць расці цэны на тавары -- спачатку знікнуць чэргі, а пасля і ... людзі.

### Маналогі

**Гусак:** -- Галоўнае -- умець выйсці сухім з вады.

**Індык:** -- Мой дэвіз: не маўчы, лапачы і балбачы -- хай думаюць, што ты надта разумны.

### Заклік

Не выносьце скваркі з хаты!

### Траўмы

Падарваўся, калі падымаў жыццёвы ўзровень насельніцтва.

### Аб`явы

☒ Запрашаем на курсы рэкецціраў. Аплата ў далярах.

☒ Знакаміты экстрасэнс адшукае ў вас усе хваробы, зафіксаваныя ў Вялікай медыцынскай энцыклапедыі .

☒ Кінуць піць і курыць за 30 хвілін вам дапамогуць вопытныя майстры па каратэ, дзюдо, кунгфу, і самба.

☒ Вопытны масажыст выконвае любыя будаўнічыя работы.

☒ Шукаю работу міністра замежных спраў. Згодзен працаваць нават у Афрыцы.

☒ Вы ад`язджаеце ў водпуск і вам няма на каго пакінуць сваю жонку? Звaніце нам. Ваша жонка будзе ў надзейных руках.

☒ Прапаную пяць тысяч рэцэптаў на тэму «Як змагацца з голадам».

☒ Згубілася жанчына з сабачкам. Сабачку просьба вярнуць за ўзнагароджанне.

☒ Мяняю сварлівую жонку на бензапілу.

## Талент -- рэч каштоўная

-- Музычныя здольнасці Моцарта выявіліся да 3 год.

-- Юлій Цэзар і Аляксандр Македонскі ведалі ў твар і па імёнах усіх сваіх салдат -- да 30 тысяч чалавек.

-- Сенека мог паўтарыць 2000 не звязаных паміж сабой слоў, якія пачуў толькі раз.

-- Рускі шахматыст Алёхін мог гуляць па памяці «ўсляпую» з 30-40 партнёрамі.

## Бясплатныя прыватныя абвесткі

**Здыму ў Глыбокім аднадвухпакаёвую кватэру з усімі выгодамі, тэл.: 23754.**






**Прадаецца дом з гаспадарчымі пабудовамі, нядорага, у в. Міхайлаўка (прыгарад Глыбокага). Тэл. у Глыбокім 2 35 37**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Завараты. Ёсць студня, сад, хлеў. Кошт па дамове. Звяртацца на адрас: Глыбоцкі раён, 211821, п/а Дзеркаўшчына, в. Латыголь, Лупач Уладзімір Зыгфрыдавіч.**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Саннічкі Глыбоцкага раёна (непадалёк ад в. Косарава, Празароцкі с/с). Хата знаходзіцца ў маляўнічым месцы на беразе возера. Тэлефанаваць: 3 95 28**

# Навагоднія тосты

**Вып`ем за тое,**

Υ Каб з шырокіх штанін мы даставалі не голы кукіш, а пачкі грошай.

Υ Каб ежна было не толькі ў дні зарплат і авансаў.

Υ Каб зніклі ў Бермудскім трохвугольніку тыя, хто шмат абяцае і нічога не робіць.

Υ Каб сон пра годнае жыццё стаў явай, а не нікчэмнай рэальнасцю.

Υ Каб «горка» было толькі маладым на вяселлі, а не ўсім у жыцці.

Υ Каб газета «Вольнае Глыбокае» стала жаданым госцем у кожнай сям`і.

Υ Каб было што наліць, бо якія ж тосты без чаркі?

**Гэта калі сур`ёзна. А калі жартам, то вып`ем за тое,**

Υ Каб Новы год прыйшоў не па загаду зверху.

Υ Каб страўнік з закускай не размінуўся.

Υ Каб жонка не пераблытала мужа з Дзедам Марозам.

Υ Каб муж не валяўся пад сталом замест сабакі.

Υ Каб Новы год усёй дружнай сям`ёй вы сустракалі пад ёлкай, а не пад фікусам.

## Снежаньскі гістарычны каляндар

**Снежань 1386 г.** -- падпісанне дагавора паміж Вялікім Князем Літоўскім Ягайлам і магістрам Прускага рыцарскага ордэна аб хрышчэнні язычнікаў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага.

**Снежань 1395г.** -- няўдалы паход крыжакоў на Вільню.

**2 снежня 1432г.** -- бой пад Ашмянамі паміж князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам за валоданне каронай Вялікага Княства Літоўскага.

**1 снежня 1550 г.** Барбара Радзівіл -- прадстаўніца магутнага беларускага княжацкага роду была каранавана і стала вялікай княгіняй літоўскай і каралевай польскай.

**12 снежня 1586 г.** памёр Стэфан Баторый, вялікі князь літоўскі, кароль польскі.

**9 снежня 1610 г.** Караль Радзівіл адпраўляецца на Мальту, каб прайсці там пасвячэнне ў рыцары Мальтыйскага Ордэна.

***

**Унікальны помнік беларускага дойлідства, Мірскі замак, уключаны ў спіс сусветнай спадчыны 29 лістапада, у дзень, які быў вызначаны ЮНЕСКА як аптымальны для прыняцця адпаведнага рашэння.**



**Прадаецца BMW-524 Турба-дызель, 1983 года выпуску ў добрым стане, рухавік 1990 года. Цэнтральны замок, люк, гідраўзмацняльнік руля. Расход паліва -- 7 л. на 100 км. Кошт па дамове. Тэлефанаваць у Глыбокім 2 37 54.**

***

**Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі» Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з $20^{00}$ да $21^{00}$.**

***

**Прадаецца рабочая кабыла 6-ці год у вёсцы Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна. Тэлефон (8-254) 2 35 48**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў Вы зможаце звярнуцца да прадстаўнікоў Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Глыбокім: **2 37 54, 2 19 38**; у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага р-на **2 31 11**; у Паставах **2 27 58**. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць і бясплатную юрыдычную кансультацыю і канкрэтную дапамогу.

*Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!*


Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099
А. Шэлепень (г. Глыбокае): тэл.: 21274

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА)
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- 2 друкаваныя аркушы.
Падпісана ў друк 17 снежня 2000 г. у 14-40

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 7766